Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

6 чэрвеня 1991 г. ЧАЦВЕР

№ 109 (21637)

Цана 10 кап.

## У Палітбюро ЦК КПСС

У адпаведнасці з даручэннем красавіцкага (1991 года) аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС Палітбюро прыняло пастанову «Аб рабоце камуністаў у Саветах народных дэпутатаў».

У ёй адзначаецца, што працэс рэфармавання савецкага грамадства, усталявання дэмакратыі і абнаўлення Саветаў народных дэпутатаў ідзе складана і супярэчліва. Саветы сталі арэнай напружанай палітычнай барацьбы. У радзе рэгіёнаў краіны ўзнікла прамая пагроза іх ліквідацыі.

У гэтай абстаноўцы цэнтральныя органы партыі, многія партыйныя камітэты і арганізацыі аказаліся не гатовымі да актыўнай палітычнай работы, спазняюцца з практычнымі дзеяннямі па вырашэнню ўзнікаючых праблем.

Палітбюро ЦК КПСС звярнула ўвагу ЦК кампартый саюзных рэспублік, рэскомаў, крайкомаў, абкомаў партыі на неабходнасць і ў далейшым праводзіць прынцыповы курс XXVIII з'езда КПСС на абнаўленне палітычнай сістэмы і рашучае ўмацаванне Саветаў як органаў народаўладдзя. Саветы народных дэпутатаў гістарычна сябе апраўдалі і не вычарпалі сваіх магчымасцей. Навязваемая грамадскай думцы ідэя «дэсаветызацыі» азначае на справе адчужэнне ад улады шырокіх слаёў працоўных: рабочых, сялян, інтэлігенцыі.

Задача партыйных арганізацый — усямерна садзейнічаць станаўленню Саветаў, якія маглі б у новых умовах эфектыўна ажыццяўляць уладу ў інтарэсах большасці, арганічна спалучаць на месцах нарматворчую і выканаўчую работу, у поўнай меры рэалізаваць свае кантрольныя функцыі. Неабходна выступаць за ўмацаванне прававой і матэрыяльна-фінансавай базы Саветаў.

У пастанове выказана падтрымка ажыццяўляемага ў краіне курсу на стварэнне цэласнай сістэмы дзяржаўнай улады, якая спалучае існуючыя структуры савецкай прадстаўнічай дэмакратыі з інстытутам прэзідэнцкай улады. Адначасова падкрэслена, што пры гэтым за вышэйшымі прадстаўнічымі органамі павінны быць захаваны дастатковыя паўнамоцтвы ў кантролі за дзейнасцю як Кабінета міністраў, так і Прэзідэнта СССР.

Палітбюро лічыць, што КПСС павінна больш актыўна ў рамках Канстытуцыі і законаў СССР удзельнічаць у фарміраванні органаў дзяржаўнай улады і кіравання, аказваць дзейсны ўплыў на ўнутраную і знешнюю палітыку дзяржавы. Задача ЦК кампартый саюзных рэспублік, партыйных камітэтаў і арганізацый калегіяльна на з'ездах, канферэнцыях, пленумах выпрацоўваць палітычную лінію па важнейшых пытаннях жыцця грамадства, адстойваць яе праз сваіх прадстаўнікоў у дзяржаўных і гаспадарчых органах, праводзіць у практычных справах.

Рэкамендавана партыйным камітэтам і арганізацыям, камуністам настойліва авалодваць метадамі парламенцкай дзейнасці, разглядаючы яе як адну з важнейшых форм рэалізацыі палітычнай функцыі КПСС. Пакласці ў аснову работы дэпутатаў-камуністаў эфектыўнае вырашэнне надзённых праблем штодзённага жыцця насельніцтва.

У пастанове адзначаецца, што асаблівая роля ў згуртаванні дэпутатаў-камуністаў, супрацоўніцтве іх з іншымі дэпутацкімі фракцыямі, прадстаўленымі ў Саветах, належыць партыйным групам. У гэтай сувязі прапанавана ўмацоўваць арганізаванасць, дысцыпліну і адказнасць, без якіх партгрупы аморфныя і не здольныя рэалізоўваць свой патэнцыял.

ЦК кампартый саюзных рэспублік, партыйным камітэтам, пярвічным партарганізацыям рэкамендавана ўстанавіць з дэпутатамі-камуністамі цесныя сувязі, стаць тымі апорнымі пунктамі, дзе яны могуць пастаянна атрымліваць дапамогу, параду і падтрымку. Мэтазгодна практыкаваць вылучэнне дэпутатаў-камуністаў у выбарныя партыйныя органы, праводзіць сумесных пасяджэнняў партыйных камітэтаў і груп камуністаў, рэгулярна інфармаваць партарганізацыі і працоўныя калектывы аб рабоце камуністаў у Саветах. У поўнай меры выкарыстоўваць сістэму ідэйна-тэарэтычнай падрыхтоўкі для навучання дэпутатаў — членаў КПСС і беспартыйных, якія супрацоўнічаюць з камуністамі.

Палітбюро рэкамендуе ЦК кампартый саюзных рэспублік, рэскомам, крайкомам, абкомам партыі праз партыйныя групы, дэпутатаў-камуністаў актывізаваць законатворчую дзейнасць у прадстаўнічых органах Саюза ССР і рэспублік.

Дадзены канкрэтныя даручэнні навуковым і навучальным установам КПСС па разгортванню навукова-даследчых работ у галіне дзяржаўнага будаўніцтва і парламенцкай дзейнасці партыі, а таксама па арганізацыі вучобы партыйных кадраў, якія непасрэдна займаюцца пытаннямі работы камуністаў у Саветах.

Сродкам масавай інфармацыі КПСС прапанавана глыбей аналізаваць, аб'ектыўна і ўсебакова асвятляць вопыт работы Саветаў, партыйных груп (фракцый камуністаў), не ўхіляцца ад палітычнай палемікі, даваць належную водпаведзь безадказным выпадам, фактам маральнага тэрору супраць асобных дэпутатаў.

## КУЛЬТУРУ АБАРОНІЦЬ ЗАКОН

Нагадаем чытачу, што Закон аб культуры на мінулым тыдні не быў прыняты, таму што не ўдалося дэпутатам прымірыць паэзію высокай духоўнасці і нікчэмную прозу беднасці рэспубліканскага бюджэту. Гэта няпростая задача была зададзена парламентарыям на дом, і варыянты яе рашэння яны абнародавалі на пленарным пасяджэнні 4 чэрвеня. Адразу скажам — парламентарыі прынялі і рашэнне задачы і Закон, прычым і паартыкульна і ў цэлым.

На думку Ніла Гілевіча, прыняцце гэтага дакумента можна справядліва расцаніць як яшчэ адзін сур'ёзны крок да сапраўднага адраджэння нацыянальнай культуры. Нават далёкіх ад культурнай дзейнасці людзей не могуць не радаваць закладзеныя ў дакуменце прынцыпы: свабода творчасці, плюралізм яе напрамкаў і стыляў, адмова ад манапалізму ў культуры, абарона інтэлектуальнай уласнасці, агульнадаступнасць духоўных каштоўнасцей, клопаты аб культуры нацыянальных меншасцей.

Павіншаваўшы адзін аднаго з доўгачаканым нараджэннем Закона аб культуры, за які, заўважым, галасавала рэкордная на гэтай сесіі колькасць дэпутатаў, уключаючы і апазіцыю, парламент адразу ж пераключыўся на разгляд пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР «Аб парадку прадастаўлення і забірання зямельных участкаў». У яго праекце гаворыцца, што грамадзяне Беларускай ССР, незалежна ад месца іх пастаяннага пражывання, якія выказалі жаданне весці сялянскую гаспадарку, звяртаюцца з заявай у сельскія (пасялковыя) Саветы народных дэпутатаў. Разгляд заяў праводзіцца ў адпаведнасці з Законам Беларускай ССР «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы».

Прадпрыемствы, установы, арганізацыі, кааператывы і грамадзяне, зацікаўленыя ў забіранні зямельных участкаў, скажам, для будаўніцтва, звяртаюцца з хадайніцтвам аб папярэднім узгадненні месца размяшчэння аб'екта ў адпаведныя сельскі, пасялковы, гарадскі, раённы Савет народных дэпутатаў па месцы знаходжання запрошваемых зямель.

Аднак дэпутаты не прыйшлі да згоды па асобных палажэннях дакумента і нават па назвах некаторых яго раздзелаў. Прыняцце пастановы адкладзена.

**У. ГЛОД, Я. ГАРЭЛІК, А. КРЫЖАНОЎСКІ,**
**парламенцкія карэспандэнты БЕЛТА.**

## Нацыянальная ідэя — аснова нашых праграм і законаў

### Першае інтэрв'ю на новай пасадзе

**Намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР народны дэпутат СССР Міхаіл Дзямчук адказвае на пытанні аглядальніка «Звязды» Анатоля Мяснікова.**

**— Міхаіл Іванавіч, віншуючы вас з уступленнем на новую пасаду, хачу найперш спытаць вось аб чым: наколькі гэта назначэнне стала для вас нечаканым?**

— Дзякуй за віншаванне. Прапанова аб назначэнні на пасаду намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР была для мяне нечаканай, хоць яшчэ раней, прыкладна год назад, размова наконт гэтага з прэм'ер-міністрам рэспублікі Вячаславам Францавічам Кебічам у нас была. Цяпер жа ён сказаў аб сваім намеры прапанаваць маю кандыдатуру дзесьці за тыдзень да пачатку сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**— Што вы бачыце сваімі найпершымі абавязкамі на пасадзе намесніка прэм'ер-міністра рэспублікі?**

— Пытанне аб'ёмістае. Найперш, вядома, трэба разабрацца з той гаспадаркай, якая дасталася мне ў спадчыну. А гаспадарка тая надзвычай вялікая і даволі складаная. Я падлічыў: сацыяльная сфера, якую я буду курыраваць ва ўрадзе Беларусі, ахоплівае непасрэдна звыш паловы насельніцтва рэспублікі. Мяркуйце самі: у нас два мільёны дзяцей, навучэнцаў і студэнтаў, па некалькі соцень тысяч настаўнікаў, навукоўцаў, работнікаў аховы здароўя, дзіцячых дашкольных устаноў, сферы культуры, звыш двух мільёнаў пенсіянераў... І ўсе яны сёння патрабуюць да сябе самай пільнай, неадкладнай і пастаяннай увагі.

Трэба таксама грунтоўна разабрацца, якія сацыяльныя праграмы патрабуюць асаблівай увязкі з рыначнымі эканамічнымі механізмамі. Тут мне бачацца дзве асноўныя задачы: першая — як, якім чынам утрымаць сацыяльную сферу ва ўмовах рынку, не дазволіць ёй разваліцца канчаткова; і другая — неадкладна пачаць распрацоўваць і фарміраваць тыя механізмы — найперш эканамічныя і прававыя, якія будуць спрыяць развіццю і ўдасканаленню сацыяльнай сферы ў новых, такіх нязвычных для нас умовах.

Вы, несумненна, звярнулі ўвагу, што ў парадку дня цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета БССР два пытанні маюць самае непасрэднае дачыненне да сацыяльнай сферы: гэта праекты Законаў Беларускай ССР аб культуры і аб адукацыі. Прыняцце іх — што, я думаю, і здарыцца на сесіі — стане важным момантам перабудовы і пераарыентацыі дзейнасці ў гэтых надзвычай важных сацыяльных галінах. Дададзім да іх прыняты ўжо Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», і стане відавочным, што прастор для работы, для сапраўды творчых пошукаў і вырашэнняў надзённых праблем для нас з'яўляецца надзвычай шырокі.

Думаю, ёсць неабходнасць прааналізаваць і ўсвядоміць схему ўвязкі многіх іншых законаў і дзяржаўных актаў адносна законаў нашай сферы. Што маецца на ўвазе? Літаральна ўсе законы так ці інакш закранаюць гэту сферу. Але адносна яе яны ці не працуюць, ці працуюць, як кажуць, на неабавязковай аснове.

Далей. Трэба канчаткова і выразна сфармуляваць і пачаць ажыццяўленне рэальных, зразумелых усім і кожнаму праграм развіцця сацыяльнай сферы ў рэспубліцы. Тут найперш неабходна разабрацца: што канкрэтна павінна рабіцца на самых розных узроўнях: рэспублікі, вобласці, рэгіёна, раёна і нават сельскага Савета, што — на ўзроўні міністэрстваў і ведамстваў, урада і г. д. Сёння такой канкрэтыкі — рэальнай і грунтоўна прапрацаванай — на жаль, пакуль няма. Я перагаварыў ужо з многімі сваімі калегамі — міністрамі і кіраўнікамі ведамстваў, з некаторымі старшынямі аблвыканкомаў, і мы дамовіліся ў самы бліжэйшы час распачаць гэту работу. Некаторыя з такіх праграм я ўжо бачу, некаторыя ўзначалю сам, каб асабіста несці адказнасць за ход рэалізацыі іх.

**— Што тут маецца на ўвазе канкрэтна? І ці не спатрэбіцца для гэтага чарговая рэарганізацыя структур улады?**

— Вось, скажам, адна з такіх праграм — «Непрацаздольныя дзеці». 13 працэнтаў дзяцей у нас з недахопамі ў развіцці... Лічба, пагадзіцеся, немалая, яна не можа не выклікаць неспакой. І вырашаць праблему трэба, несумненна, на ўзроўні ўрада рэспублікі, тым больш, што адносіны да яе ў роўнай ступені маюць адукацыя, ахова здароўя, сацыяльнае забеспячэнне і г. д.

Ці возьмем, напрыклад, нацыянальную праблему — натуральна, у самым шырокім сэнсе слова. Калі ў сацыяльнай сферы мы не будзем вырашаць яе — вырашаць пастаянна, мэтанакіравана, актыўна — на парадку дня праблема так і застанецца. Я лічу, што асабліва плённа тут могуць «спрацаваць» законы аб мовах, аб культуры, аб адукацыі, але ў іх цеснай узаемаўвязцы.

Згодзен: адносна гэтых і іншых сацыяльных праграм давядзецца рэарганізаваць структуру міністэрстваў і ведамстваў, увогуле шматлікія органы кіравання сферай. Шмат яшчэ ў нас нелагічнасці ў гэтай справе, дубляжу, некаторых непатрэбных звенняў... За кожную праграму павінен адказваць канкрэтны чалавек — у рэспубліцы, вобласці, горадзе, раёне, і людзі аб гэтым павінны ведаць. А той чалавек абавязаны, так сказаць, здаваць праграму пад ключ.

Такім чынам, стварэнне праграм сацыяльнага развіцця, аптымізацыя структур кіравання, пошук прымальнага і надзейнага механізма, які б стымуляваў выкананне гэтых праграм, — вось найпершыя клопаты дня.

І яшчэ. Я цвёрда перакананы, што нам неадкладна трэба ўзнімаць статус работніка сацыяльнай сферы. Тое, што мы тут нарабілі за апошнія дзесяцігоддзі, — гэта сапраўдная трагедыя. Я лічу так: урач, настаўнік, культработнік, выхавальнік дашкольнай установы павінен быць сапраўдным дзеячом сацыяльнай сферы і атрымліваць адпаведную зарплату, скажам, на ўзроўні сярэдняй па народнай гаспадарцы ў цэлым.

Статус — гэта не толькі зарплата, гэта — паняцце больш аб'ёмістае. У ім яшчэ галоўнае — і дыферэнцыяцыя зарплаты спецыялістаў па прафесіянальнай годнасці. Мы павінны цаніць і шанаваць таленавітых людзей. Гэты тэзіс не так проста рэалізаваць, бо сама сацыяльная сфера павінна быць у стане вылучаць людзей найперш па прафесіянальнаму прызнаку. На жаль, нашы ўстановы на сёння вельмі уніфікаваныя. Дыферэнцыяцыя тут павінна адбывацца паралельна з канцэптуальнымі падзвіжкамі. Як у адукацыі, так і ў культуры, ахове здароўя мы будзем рабіць стаўку на рознаўзроўневыя ўстановы і цэнтры. Рознаўзроўневыя не па нейкіх аб'ёмах, а па прафесіянальнай магчымасці, калі хочаце — па навуковаму патэнцыялу...

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ЗВАРОТ

### УДЗЕЛЬНІКАЎ РЭСПУБЛІКАНСКАГА СЕМІНАРА ПАРТЫЙНАГА АКТЫВУ ВЫШЭЙШЫХ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ ДА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

Звяртаемся да вас у сувязі з маючым адбыцца абмеркаваннем у Вярхоўным Савеце прадстаўленага Камісіяй па адукацыі, культуры, захаванню гістарычнай спадчыны праекта Закона БССР «Аб адукацыі». Ад замацаваных у ім прынцыпаў у многім залежыць стварэнне сацыяльна-эканамічных, палітычных і прававых перадумоў для развіцця нацыянальнай школы, фарміравання духоўнага і інтэлектуальнага патэнцыялу рэспублікі, далучэння нашага маладога пакалення да дасягненняў сусветнай і айчыннай культуры. Усведамляючы гэта, мы заклікаем вас узважана, адказна падысці да аналізу дакумента, кожнага яго артыкула, тым больш, што некаторыя з іх маюць патрэбу ў сур'ёзнай карэкціроўцы, радыкальна-крытычным пераасэнсаванні.

Лічым непрымальным артыкул 12 праекта Закона, які непасрэдна закранае асабістыя грамадзянскія правы і свабоды, інтарэсы выкладчыкаў, студэнтаў і навучэнцаў. Ён забараняе стварэнне і дзейнасць у дзяржаўных установах адукацыі і выхавання структур палітычных партый і аб'яднанняў, якія маюць фіксаванае членства і Статут.

Мы глыбока перакананы: змест указанага артыкула супярэчыць не толькі нашым канстытуцыйным нормам, савецкаму заканадаўству, але і міжнароднаму праву. Забарона на стварэнне і функцыяніраванне ў навучальных установах партыйных арганізацый з'яўляецца парушэннем дэмакратычных прынцыпаў і непазбежна прывядзе — аб чым сведчаць падзеі, што адбываюцца ў радзе рэгіёнаў краіны, — да забароны на прафесію па палітычных матывах, праследавання іншадумцаў. Якімі б знешне прывабнымі меркаваннямі не прыкрывалася ідэя «дэпартызацыі», што аказалася сёння ў фокусе сацыяльна-палітычных працэсаў, у аснове сваёй яна ілюзорная. Марна спрабаваць «засцерагчы» школу ад палітыкі ў палітызаваным грамадстве.

Тыя, хто заклікаюць «дэпартызаваць» адукацыю, утойваюць сапраўдныя намеры і праследуюць зусім пэўныя палітычныя мэты: пад флагам «беспартыйнасці» пакончыць з КПСС, выцясніць са школы яе арганізацыі, змяніць ідэалагічную арыентацыю адукацыі і выхавання. Навамодныя лозунгі «дэпалітызацыі», «дэпартызацыі» азначаюць, такім чынам, «перапалітызацыю», «перапартызацыю», «пераідэалагізацыю».

Закон, што грунтуецца на сапраўды дэмакратычных, гуманных прынцыпах, павінен гарантаваць права палітычным партыям на стварэнне сваіх структур у навучальных установах. Сутнасць нашай пазіцыі заключаецца ў тым, што ў школе могуць дзейнічаць тыя грамадскія аб'яднанні, якія зарэгістраваны ва ўстаноўленым Законам парадку, паважаюць Канстытуцыю БССР, кіруюцца патрабаваннямі законаў рэспублікі, канкрэтнымі справамі садзейнічаюць рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў сферы адукацыі і выхавання. Абавязак педагагічных работнікаў — паслядоўна праводзіць гэту палітыку незалежна ад таго, да якіх партый і рухаў яны належаць і якія палітычныя погляды падзяляюць.

Лічым, што ў прапанаванай дэпутатам фармулёўцы артыкул 12 павінен быць выключаны, тым больш, што ў праекце Закона змяшчаецца шэраг іншых артыкулаў (27, 28, 35), якія рэгламентуюць палітычную дзейнасць у дзяржаўных навучальна-выхаваўчых установах і ўзгадняюцца з дэмакратычнымі нормамі.

Спадзяёмся, што народныя дэпутаты прымуць Закон БССР «Аб адукацыі», які ўлічвае сацыяльна-палітычныя рэаліі, гарантуе правы і свабоды асобы, яе свабоднае самавызначэнне ў светапоглядных пазіцыях і духоўных інтарэсах.

**Зварот прыняты на рэспубліканскім семінары партыйнага актыву вышэйшых навучальных устаноў 31 мая 1991 г.**

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### ЗАКОН АБ ВЫЕЗДЗЕ І ЎЕЗДЗЕ ПРЫНЯТЫ

**Вярхоўны Савет СССР прыняў Закон СССР «Аб парадку выезду з Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і ўезду ў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік грамадзян СССР» і пастанову аб парадку яго ўвядзення ў дзеянне.**

**Пачне дзейнічаць закон з 1 студзеня 1993 года. Да таго часу, гаворыцца ў пастанове, грамадзянін СССР пры звароце з заявай аб выездзе з СССР на пастаяннае месца жыхарства прадстаўляе запрашэнне ад сваякоў, якія пастаянна жывуць за мяжой, або дазвол на ўезд у прымаючую краіну.**

**Закон і пастанова публікуюцца ў друку.**

### І ПАЙШЛА БІРЖА НА БІРЖУ?

**МАГІЛЁЎ. (А. Санчук). Тут адбылася прэзентацыя універсальнай рэгіянальнай біржы. Сярод яе заснавальнікаў — кіраўніцтва спраў абкома КПБ, усе тры выканкомы райсаветаў абласнога цэнтра, акцыянернае таварыства «Фонд развіцця Магілёва», прадпрыемствы, будаўнічыя арганізацыі горада.**

Статутны капітал ужо складае тры мільёны рублёў. Дарэчы, доля кіраўніцтва спраў абкома ў ім самая важкая. Хаця яно, як і іншыя акцыянеры, мае ў біржавым савеце 1 голас. Плануецца выпуск дадатковых акцый, каб давесці капітал да 10 мільёнаў.

Заключаны дагаворы аб узаемадзеянні з 12 біржамі краіны, якія ўжо заваявалі пэўны аўтарытэт на рынку. Дзейнасць біржы будзе шматграннай. Яна збіраецца стаць не толькі пасрэднікам у аптовым гандлі таварамі, але і дапамагчы ў акцыяніраванні прадпрыемстваў, іх раздзяржаўленні.

Варта нагадаць, што Магілёў пакуль адзіны не толькі ў рэспубліцы, але, напэўна, і ў краіне абласны цэнтр, дзе створаны дзве аднолькавыя па характару біржы. Крыху раней тут пачала работу рэгіянальная таварна-сыравінная біржа. Натуральна, што яны выступяць на рынку як канкурэнты.

### АДМЯНІЛІ ТАЛОНЫ

**СМАРГОНЬ. (А. Дук). Парадаксальна, але факт: павышэнне рознічных цэн мае, як аказалася, і свае плюсы. Прынамсі, у Смаргоні. Тут днямі мясцовы гарвыканком прыняў рашэнне аб адмене талонаў на сметанковае масла і муку.**

Павысіліся цэны — знізіўся попыт. Напрыклад, выбарка масла гархарчгандлем з мясцовага завода сухога абястлушчанага малака за паўмесяца складае ўсяго адну тону замест 8,5 тоны дакрасавіцкіх. Тое ж самае і з мукой: на складах утварыліся цэлыя яе залежы. Вось і звярнуўся гархарчгандаль у гарвыканком з адпаведнай прапановай.

### НАСТАЎНІКІ СУПРАЦЬ ДЭПАЛІТЫЗАЦЫІ

**ЖЛОБІН. (М. Шуканаў). У сувязі з плануемым разглядам на сесіі Вярхоўнага Савета БССР пытання аб дэпалітызацыі і дэпартызацыі навучальных устаноў сістэмы народнай адукацыі ў Жлобінскім гаркоме КПБ адбылася нарада настаўнікаў і выкладчыкаў школ і ПТВ горада і раёна, на якой абмяркоўвалася ўзнятая праблема.**

З уступным словам выступіў першы сакратар гаркома партыі Рыгор Івончык. Ён давёў да ведама прысутных пазіцыю ЦК КПБ па названай вышэй праблеме, спыніўся на сучаснай расстаноўцы палітычных сіл у рэспубліцы. Рыгор Івончык падкрэсліў, што сёння атрад камуністаў - педагогаў у раёне налічвае амаль 300 чалавек. Ізаляцыя іх ад школы непазбежна прывядзе да страты падрастаючым пакаленнем камуністычных ідэалаў, і ў канчатковым выніку паўстане пытанне аб будучыні самой кампартыі. Гэтага нельга дапусціць. Іншая справа, што камуністам неабходна шукаць новыя метады ў сваёй палітычнай дзейнасці. Прамоўцы выказалі падтрымку пазіцыі ЦК КПБ. Нарада прыняла пісьмовую рэзалюцыю да Вярхоўнага Савета БССР, у якой адстойваецца права настаўнікаў-камуністаў на сваю дзейнасць у рамках сістэмы народнай адукацыі і падкрэсліваецца ўтапізм ідэі дэпалітызацыі сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў.

● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ

### БАНДЫТАМ—РАССТРЭЛ

**МІНСК. (Наш кар.). Учора завяршыўся судовы працэс над бандай, якую арганізаваў і ўзначальваў Аляксандр Мезін, у былым — супрацоўнік міліцыі. У яе саставе было пяцёра злачынцаў, у тым ліку жонка главара — Таццяна Мезіна. На рахунку бандытаў — крадзеж зброі, набыццё, захоўванне і збыт узрыўчаткі, напад на касу ПМК-59, крадзеж і ўгон матацыклаў і аўтамабіляў, аграбленне касіра калгаса «Іскра» Жлобінскага раёна, у выніку чаго было ўкрадзена больш як 124 тысячы рублёў, падпал аўтамашын, узрывы, забойствы, вымагальніцтва грошай у кааператараў, замах на забойства супрацоўніка міліцыі...**

Пасля арышту банды яе важаку Аляксандру Мезіну ўдалося збегчы са следчага ізалятара. А потым амаль месяц ён хаваўся ў хлеўчуку свайго добрага знаёмага Канстанціна Свірыдава са Жлобіна. І нават пасля таго, як яго затрымалі, ён зноў спрабаваў уцячы.

І вось старшынствуючы на працэсе член Вярхоўнага суда БССР Мікалай Іванавіч Гермянчук аб'яўляе прысуд. Двое бандытаў — Аляксандр Мезін і Аляксандр Карплюк прыгавораны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Міхаіл Гігалаеў асуджаны на 15 гадоў, Таццяна Мезіна атрымала 7 гадоў пазбаўлення волі, а Васіль Карплюк (брат Аляксандра Карплюка) — 4 гады.

Разам з карэспандэнтам у зале пасяджэння суда прысутнічаў і намеснік начальніка Жлобінскага РАУС маёр Мікалай Парашчанка, які непасрэдна ўдзельнічаў у раскрыцці і арышце бандытаў. Ён і паведаміў журналісту, што вечарам, напярэдадні аб'яўлення прысуду, у Жлобіне, у доме Таццяны Мезінай сабраліся падазроныя людзі. Выклікалі нарад міліцыі. Як высветлілася, гэта былі небяспечныя злачынцы, якія перад гэтым учынілі разбойны напад на таксіста. Усе чацвёра арыштаваны.

Больш падрабязна пра чорныя справы бандытаў, а таксама пра мужнасць і знаходлівасць супрацоўнікаў міліцыі, якія арыштавалі іх, мы раскажам у бліжэйшых нумарах газеты.

## ДЭЛЕГАЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ СЛАВЕНІІ Ў БЕЛАРУСІ

Дэлегацыя Выканаўчага веча Скупшчыны Рэспублікі Славеніі на чале з яго старшынёй Алойзе Пецерле прыбыла 2 чэрвеня ў Беларускую ССР. Яна запрошана ўрадам рэспублікі.

3 чэрвеня былі праведзены перагаворы ў Савеце Міністраў БССР, у ходзе якіх абмяркоўваліся пытанні расшырэння і ўмацавання дружалюбных сувязей паміж дзвюма рэспублікамі. Пачатак ім быў пакладзены ў час першага візіту ў Беларусь урадавай дэлегацыі Славеніі ў чэрвені 1979 года. На перагаворах, якія прайшлі ў таварыскай, дзелавой атмасферы, бакі абмяняліся інфармацыяй аб развіцці эканомікі, навукі і культуры ў Беларусі і Славеніі, дагаварыліся аб далейшым супрацоўніцтве працоўных калектываў і арганізацый абедзвюх рэспублік у самых розных галінах.

Адбылося падпісанне пагаднення паміж урадам Беларускай ССР і Выканаўчым веча Скупшчыны Рэспублікі Славеніі аб гандлёва-эканамічным, навукова-тэхнічным і культурным супрацоўніцтве. Дакумент падпісалі Старшыня Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебіч і Старшыня Выканаўчага веча Скупшчыны Рэспублікі Славеніі Алойзе Пецерле.

У гэты ж дзень было падпісана пагадненне аб далейшым умацаванні супрацоўніцтва паміж Гандлёва-прамысловай палатай Беларускай ССР і Гаспадарчай палатай Рэспублікі Славеніі.

— Мы шчыра рады прыезду нашых старых партнёраў па супрацоўніцтву,—сказаў карэспандэнту БЕЛТА старшыня прэзідыума Гандлёва-прамысловай палаты БССР У. К. Лясун.—Новае пагадненне адлюстроўвае ўзаемнае імкненне да павелічэння тавараабароту паміж нашымі рэспублікамі, паляпшэння якасці ўзаемапастаўляемай прадукцыі, развіцця рэкламнай і маркецінгавай дзейнасці, расшырэння ўзаемнага выкарыстання патэнтаў і ліцэнзій, арганізацыі сумесных прадпрыемстваў, развіцця вытворчага кааперавання і іншых новых форм эканамічнага супрацоўніцтва.

Госці мелі сустрэчу ў Дзяржаўным камітэце БССР па знешніх эканамічных сувязях.

Дэлегацыя Рэспублікі Славеніі наведала Мінскі аўтамабільны завод, азнаёмілася з вытворчасцю прычэпаў-дач. Гэту вытворчасць паставіла ў рэспубліку фірма «Славенія-лес». Разліковая магутнасць цэха 6 тысяч штук прычэпаў-дач у год. Партнёры маюць намер стварыць на яго базе сумеснае гандлёвае прадпрыемства.

Старшыня Выканаўчага веча Скупшчыны Рэспублікі Славеніі Алойзе Пецерле нанёс візіт мітрапаліту Мінскаму і Гродзенскаму Філарэту, патрыяршаму экзарху ўсяе Беларусі.

Славенскія госці зрабілі паездку на мемарыяльны комплекс «Хатынь», усклалі кветкі да Вечнага агню мемарыяла.

Ад імя Савета Міністраў БССР у гонар дэлегацыі Выканаўчага веча Скупшчыны Рэспублікі Славеніі быў дадзены абед.

(БЕЛТА).

## ВІЗІТ У НАРВЕГІЮ

ОСЛА, 5 чэрвеня. **(Спец. кар. ТАСС).** Сёння ў Нарвегію прыбыў з візітам Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў. У якасці лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру за 1990 год ён выступіць тут з традыцыйнай лекцыяй, прачытанне якой з'яўляецца састаўной часткай нобелеўскага рытуалу. У праграме візіту таксама перагаворы з прэм'ер-міністрам Нарвегіі Гру Харлем Брундтланд, аўдыенцыя ў караля Харальда.

У міжнародным аэрапорце Фарнебю Прэзідэнта СССР сустракалі Гру Харлем Брундтланд, Старшыня нарвежскага Нобелеўскага камітэта Франсіс Сейерстэд, іншыя афіцыяльныя асобы.

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05. НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

